 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 44 (1027) | ГОД XX | 2 ЛІСТАПАДА 1975 г. | ЦАНА 60 гр.


## КАНЦЭРТ НА ТРЫ ХОРЫ З ТАНЦАМІ!

У нядзелю 12 кастрычніка г.г. Галоўнае праўленне БГКТ наладзіла ў Гайнаўцы канцэрт самадзейных мастацкіх калектываў з Белавежы, Бельска і Гарадка. Такім чынам арганізатары рашылі адзначыць Дзень Войска Польскага, якое — прыпомнім — сваё баявое хрышчэнне атрымала на беларускай зямлі.

Па сутнасці аднак выступленне самадзейнікаў з Белавежы, Бельска і Гарадка пераўтварылася ў невялікі агляд дасягненняў БГКТ у харавой дзейнасці. І адразу скажу, што дасягненняў гэтых няма чаго саромецца, а наадварот, усё часцей трэба выстаўляць іх на вочы людзей, хай глядзяць, хай слухаюць, ацэньваюць і захапляюцца.

Гутарыў я з прадстаўнікамі ўсіх трох хораў. І кожны з іх перш за ўсё з удзячнасцю адзначыў канкрэтную дапамогу, якую пастаянна атрымоўваюць яны з боку Галоўнага праўлення БГКТ.

Здаецца, практыка апраўдала колішняе рашэнне Прэзідыума ГП БГКТ, каб на месца вялікага рэпрэзентацыйнага мастацкага калектыву пры Галоўным праўленні ў Беластоку стварыць такія калектывы, як гарадоцкі, белавежскі і бельскі. Толькі неабходна паслядоўна дапамагаць гэтым калектывам, а перш за ўсё неабходна наладжваць пастаяннае супрацоўніцтва з кіраўніцтвам прадпрыемстваў, на якіх працуюць члены гэтых калектываў, каб супольна ствараць добрую атмасферу для мастацкай самадзейнасці.

У гарадоцкім калектыве, напрыклад, прымае ўдзел пераважна моладзь з прадпрыемства „Каро". Дзяўчаты працуюць на розных зменах і проста цяжка сабраць усіх разам, каб правесці рэпетыцыю. Ці нельга было б неяк уладкаваць гэтую справу з кіраўніцтвам гарадоцкага філіялу прадпрыемства „Каро"?

— Так і не змаглі мы, як след, — кажа Ніна Цыванюк, — дапрацаваць сваю праграму.

Сапраўды, недапрацаванасць гарадоцкай праграмы ў час гайнаўскага канцэрта кідалася ў вочы, як узорыстыя народныя чырвоныя нашыўкі на іх беласнежных кашулях і хвартухах. Шкада проста псаваць добрую славу заслужанага для беларускай культуры ў Польшчы, выдатнага гарадоцкага калектыву. І яшчэ адно: нельга ад аматараў патрабаваць, каб на кожную нагоду рыхтавалі новую праграму. А самадзейнікі з Гарадка 29 верасня „абслужылі" 50-ую гадавіну Грамады і ўжо праз два тыдні выступілі „з нагоды Дня ВП". Што ж маглі зрабіць? Узялі песні, якія больш-менш ужо закараніліся ў нашай культурнай традыцыі: „Вставай, страна огромная", „Споза гур і жэк...", дадалі крыху са свайго пастаяннага рэпертуару і... ў канкурэнцыі з Белавежай і Бельскам, на маё адчуванне, гэтым разам рашуча прайгралі. Най-

(Працяг на стар. 4)

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"





*Помнік Героям Беластоцкай зямлі.* *Фота С. Рыбі.*

## НАШЫЯ КОНКУРСЫ

Падобна як у папярэднія гады, так і ў наступаючым культурна-асветным сезоне **ГП БГКТ** і рэдакцыя **„Нівы"** арганізуюць два конкурсы: **„Беларуская песня - 76" і агляд самадзейных драматычных калектываў.** Суарганізатарамі абодвух конкурсаў з'яўляюцца: аддзел культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, ваяводскі дом культуры, ваяводскі савет Федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі, рабочы выдавецкі кааператыў „Друк-Кніга-Рух", ваяводскія праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы, гмінных кааператываў сельскагаспадарчых гурткоў і добраахвотных проціпажарных каманд, а таксама ваяводскі савет прафсаюзаў і іншыя арганізацыі.

Конкурс **„Беларуская песня-76"** ставіць сваёй мэтай выявіць здольных спевакоў, прывіваць зацікаўленне рэгіянальнай творчасцю, адкрыць і распаўсюдзіць найбольш вартасныя беларускія песні. Ён будзе праходзіць на трох этапах: на **мясцовых, раённых і фінальных** аглядах. У конкурсе могуць прымаць удзел самадзейнікі — салісты, дуэты і вакальныя калектывы ад 3 да 8 асоб. Абавязваючы ўзрост удзельнікаў — 15 і болей гадоў. Школьная моладзь можа прымаць удзел толькі ў адным конкурсе, г.зн. для дарослых або для школьнай моладзі, які неўзабаве аб'явяць ГП БГКТ супольна з Беластоцкай куратарыяй асветы і выхавання. Кожны ўдзельнік або калектыў абавязаны выступіць з **дзвюма** песнямі, з якімі **яшчэ не выступалі** ў папярэдніх конкурсах. **Мясцовыя** агляды будуць адбывацца ў месяцы **снежні 1975 г., раённыя — у студзені 1976 г. і фінальны — у лютым 1976 г.** Журы на ўсіх этапах будзе ацэньваць удзельнікаў паводле якасці голасу, мастацкасці выканання і выбранага рэпертуару ў **дзвюх катэгорыях: фальклорнай песні і сучаснай песні.**

**Агляд самадзейных драматычных калектываў** будзе праходзіць на **двух этапах:** на **раённых і фінальным** аглядзе; ён ставіць сваёй мэтай пашырэнне дасягненняў тэатральнага мастацтва, падрыхтоўку шырокіх колаў насельніцтва да ўспрыймання тэатральнага мастацтва, распаўсюджванне сацыялістычнага выхаваўчага ўздзеяння і ўмення пра-

## PZPR VII ZJAZD БОЛЬШ ЛЕПШ ХУТЧЭЙ! ЛЮДЗІ: — ЦУД ГАСПАДАРЧЫ!

Прызнаюся: здзівіў мяне гэты чалавек. Здзівіў і адначасова заразіў мяне сваёй верай у будучыню, сваёй упартасцю, энтузіязмам і любоўю да справы, якой ён займаецца.

Даруйце, калі ласка, гэтыя стыхійныя захапленні, але ў жыцці нашай вёскі гэта новая якасная і становучая з'ява, для якой праклала дарогу паслядоўная палітыка партыі і ўрада, накіраваная на павышэнне ўзроўню жыцця ўсяго насельніцтва краіны.

**Кастусь Бядрыцкі** з вёскі **Кнаразы** ў Храбалоўскай гміне з гэтай палітыкі зрабіў для сябе зусім слушны вывад, **што варта заняцца жывёлагадоўляй.** Гаспадарыць ён толькі з жонкай Аннай, бо на дапамогу дзяцей разлічваць яшчэ яны не могуць. Старэйшы сын Янка ходзіць у шосты клас пачатковай храбалоўскай школы, а малодшы Валодзя толькі праз год распачне навуку.

З вонкавага выгляду гаспадарка Бядрыцкіх не вылучаецца нічым асаблівым. Адно толькі панадворак завалены цэглай і іншымі будаўлянымі матэрыяламі.

Гаспадар адчыняе дзверы хлява і найперш паказвае мне свой свінарнік. А тут нечаканасць, якую, прызнаюся, дагэтуль не прыходзілася мне бачыць. Натоўп парасят стаіць на драўлянай падлозе. Падлога не зусім шчыльная. Між паасобнымі дошкамі пакінуты шчыліны, праз якія адходзіць свінячы навоз у рэзервуары-гнаёўкі, што абсталяваны непасрэдна пад падлогай. У такім свінарніку зусім не трэба саломы на падсцілку. На дадатак Кастусь Бядрыцкі зрабіў адмысловыя кармілкі з рухомай агароджай, якая абмяжоўвае звычайную таўкатню свіней у час корму. Тут кожная штука мае сваё месца і не перашкаджае іншай.

— Здаў я ўжо 64 штукі кормнікаў, — гаворыць гаспадар, — а цяпер маю яшчэ 54 штукі.

Па-суседску, у дабудоўцы да свінарніка, стаяць бычкі французскай пароды „шаралез", а дакладней кажучы — гэта ўжо нячыстая парода „шаралез", а змешаная з чырвонай польскай. Яны прызначаюцца на мяса.

— Быдла ў мяне 16 штук, — гаворыць гаспадар. — І да таго трымаю яшчэ 6 авечак.

Прабую ўсё гэта прыраўнаць да так званых статыстычных паказчыкаў. Зямельных угоддзяў у Бядрыцкіх больш-менш 10 га, так — **дзесяць гектараў.** А ў статыстыцы падаецца колькасць жывёлы на 100 га зямельных угоддзяў. **Дык у Бядрыцкага выходзіць 160 штук быдла і**

(Працяг на стар. 4)



**Кастусь Бядрыцкі з Кнаразоў (Храбалоўская гміна) смела глядзіць у будучыню. Шырока разгорнутая жывёлагадоўля стварыла трывалыя асновы для яго гаспадаркі.**

 

# ХРОНІКА

■ 2 кастрычніка адбыўся сход гуртка БГКТ у Крынках. На ім інспектар ГП па арганізацыйных справах Яўгенія Іванюк расказала аб працы Беларускага таварыства і аб яго перадавых гуртках. Сярод прысутных 4 асобы выказалі жаданне ўступіць у рады БГКТ і падпісалі членскія дэкларацыі. Працаўнік мясцовай гміны па справах культуры Аляксандра Міхальчук і старшыня гміннага праўлення Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі Ежы Врублеўскі звярнулі ўвагу на патрэбы супрацоўніцтва крынкаўскага гуртка БГКТ з іншымі мясцовымі арганізацыямі.

■ 4 кастрычніка Прэзідыум ГП правёў чарговае пасяджэнне ў памяшканні варшаўскага клуба БГКТ. На гэтым пасяджэнні прысутнічала кіраўніцтва варшаўскай бэгэкатоўскай арганізацыі. Яе сакратар Віктар Швед прачытаў справаздачу аб дзейнасці клуба, пасля чаго адбылася ажыўленая дыскусія. Члены прэзідыума ГП далі высокую ацэнку прапагандысцкай працы, якая ў асноўным складалася з шматлікіх дакладаў. Выказана была думка, каб аўтараў гэтых дакладаў запрашаць на сустрэчы ў гуртках БГКТ на Беласточчыне. У Варшаве на Сенатарскай 8 часта адбываюцца таксама аўтарскія сустрэчы прыязджаючых у сталіцу гасцей з Савецкай Беларусі. Сустрэчы з членамі літаб'яднання БГКТ таксама карыстаюцца поспехам. Грамадскім чынам быў праведзены рамонт памяшкання. Яно па-мастацку памалявана. Малярам-мастакам Кастусю Мазуруку, Юрку Чарняўскаму і Кастусю Бандаруку належыцца сардэчная падзяка. Падчас гэтага рамонту многа таксама дапамог Хведар Галёнка, а таксама Мікалай Бірылка, Павел Дзекайла і іншыя.

На гэтым пасяджэнні Прэзідыума ГП прысвечана многа ўвагі падрыхтоўцы беларускага календара. Створана рэдакцыйная калегія: Юрка Валкавыцкі, Янка Зенюк, Хведар Галёнка, Юрка Туронак і Віктар Швед. Рэдактарам з'яўляецца Мікалай Гайдук, зацверджаны на папярэднім пасяджэнні Прэзідыума ГП.

■ 5 кастрычніка ў вёсцы Піражкі (гміна Шудзялава) і ў вёсцы Коматаўцы (гміна Гарадок), на сходах гурткоў БГКТ былі абмеркаваны справы актывізацыі дзейнасці гурткоў, аплочванне членскіх складчын, развіццё мастацкай самадзейнасці. У Піражках у рады БГКТ прынята 5 новых членаў.

■ 9 кастрычніка прэзідыум праўлення беластоцкага (былога павятовага) аддзела абмеркаваў працу аддзела ў бягучым годзе і намеціў заданні, звязаныя з рэарганізацыяй структуры БГКТ. (мх)

*Наш каляндар*

# Зыгмунт Глёгер

Увайшоў у гісторыю польскай культуры як выдатны знаўца польскіх старажытнасцей, даследчык народнага побыту, нястомны збіральнік вуснай народнай творчасці і ўлюбёны краязнаўца.

Нарадзіўся **З. Глёгер** 3 лістапада 1845 г. у маёнтку Камёнка каля Яжэва на Беласточчыне ў адукаванай і прыхільнай для прыгонных сялян дваранскай сям'і. Ужо ў часе вучобы ў варшаўскай Галоўнай школе, а затым у Кракаўскім універсітэце ўсе канікулы праводзіў у вёсках і мястэчках, што параскіданы над рэкамі Бугам і Нарвай, на збіранні фальклору і матэрыялаў народнага побыту. Пасля заканчэння адукацыі ўвесь свой вольны ад гаспадарчых заняткаў час прысвяціў збіральніцкай, даследчыцкай і выдавецкай працы. Яго першая абшырная праца *„Святыя вечары"* выйшла з друку ў 1867 г., потым амаль штогод узбагачаў ён зборы і даследаванні па гісторыі, этнаграфіі, фальклору і краязнаўству сваімі новымі выданнямі, сярод якіх выключна важнае месца займае *„Старапольская энцыклапедыя"* (1900-1903), што і па сённяшні дзень з'яўляецца важнай крыніцай ведаў па старажытнай культуры Польшчы і суседніх з ёю краінаў.

Амаль у кожным глёгераўскім выданні знаходзім шмат матэрыялаў па народнаму побыту і вуснай народнай творчасці беларусаў Беласточчыны. Яго зборы — гэта багацейшая крыніца матэрыялаў з польска-беларускага этнічнага пагранічча, узаемных польска-беларускіх уздзеянняў і ўплываў ва ўсіх дзялянках народнага жыцця і творчасці.

Памёр З. Глёгер у 1910 г., у часе, калі працаваў над *„Слоўнікам польскай гаворкі і ўласных імёнаў"*. Пакінуў пасля сябе не толькі дзесяткі тамоў публікацый, але і надзвычай багаты музей са зборам каштоўнейшых старажытнасцей, у першую чаргу з Беласточчыны.

(мг)




*Зэлёная вышня, чы я ўдома лішня?*
*Оддала ж мэнэ моя мамонька,*
*дэ я жыты нэ прывыкша,*
*оддала ж мэнэ моя мамонька,*
*дэ я жыты нэ прывыкша.*
*Прывыкша, нэпрывыкша,*
*прывыкаты я мушу,*
*і старэнькому і маленькому*
*догоджаты я мушу,*
*і старэнькому і маленькому*
*догоджаты я мушу.*
*Коб я міела крыла і ўмела*
*ліетаты —*
*поліетіела б до родной мамонькі*
*ў сад зэлёны коваты,*
*поліетіела б до родной мамонькі*
*ў сад зэлёны коваты.*
*Коб я міела крыла, соколовы очы —*
*поліетіела б до родной мамонькі*
*сэрэд тэмноі ночы,*
*поліетіела б до родной мамонькі*
*сэрэд тэмноі ночы.*
*Спомінай мэнэ, мамо, з понэдіелка*
*на ўторок,*
*а я буду тэбэ спомінаты*
*той на дэнь разы сорок,*
*а я буду тэбэ спомінаты*
*той на дэнь разы сорок.*
*Спомінай мэнэ, мамо, добрымі*
*словамі,*
*а я буду тэбэ спомінаты*
*ўсюды дробнымі слёзамі,*
*а я буду тэбэ спомінаты*
*ўсюды дробнымі слёзамі.*
*Коб я тое знала, што замужом*
*ліхо —*
*росчэсала б я русу косоньку*
*і сыдіела б ў мамы тыхо,*
*росчэсала б я русу косоньку*
*і сыдіела б ў мамы тыхо.*
*Коса ж моя руса, ў тры рады*
*сплетёна —*
*смутна дыўчына нэвэсёлая*
*ў чужу сторону вэзёна,*
*смутна дыўчына нэвэсёлая*
*ў чужу сторону вэзёна.*

Ад Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, Надзеі Грушэўскай, 1942 года нараджэння, і Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

*РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ*



*Вёска Навінка над рэчкаю Слоя.* *Фота М. Гайдука.*

## Як перахоўваюцца машыны

Зыйшлі ўжо з палёў шматлікія сельскагаспадарчыя машыны. Стаяць яны на пляцоўках і на базах пунктаў і кааператываў сельскагаспадарчых паслуг па-рознаму: пад паветкамі, у гаражах або так, пад голым небам.

Заглянулі мы на машынны двор сельскагаспадарчага гуртка ў Храбалах. Раскідвачы вапны не ачышчаны ад вапны, а некаторыя з іх пасля ападкаў напоўнены вадою. Землечарпалка „Цыклон" уткнулася сваім даўжэзным хобатам у лужыну, быццам бы хацела сагнаць асеннюю смагу. Стаіць, ашчэрыўшыся, з адламанымі зубамі культыватар. Не ўсе машыны стаяць на падстаўках, не ўсе рабочыя органы глебаапрацоўчых машын пакрыты змазкай. Неабходна зараз жа заняцца кансервацыяй. Вядома, чым хутчэй, тым лепш. Машыны ж так псуюцца.

Вернемся да самой пляцоўкі машыннай базы. Яна не выраўнана, не пасыпана жвірам. Адны лужы ды балотная твань. Не прайсці, не праехаць тут толкам.

Іншая справа гэта прычэп для перавозу вучняў. Стаіць ён каля дарогі. Заглянулі мы ў сярэдзіну... а тут настолькі ўсё бруднае, што цяжка расказаць. На падлозе агрызкі яблыкаў, раздушаныя памідоры, балота. Калі мы толькі адчынілі дзверы, цэлай гурбой так і бухнулі мухі. Навокал зазвінела, быццам у пчаліным вулеі. Дзіўна, як такім сродкам дарожнага транспарту могуць ездзіць не абы хто, а школьнікі. Хто ж як не яны самі маглі б лепш сачыць за парадкам у прычэпе, які служыць не каму іншаму, а ім самім. (ця)

## РОДАМ З БЕЛАРУСІ

Спісак польскіх прадстаўнікоў прыродазнаўчых навук, нарадзіўшыхся ў Беларусі.

Урублеўскі Зыгмунт (1845 — 1888) — нар. у Гродне. Фізік, супольна з К. Альшэўскім першы кандэнсаваў кісларод і азот з паветра.

Горскі Станіслаў (1802 — 1864) — нар. каля Кобрына. Батанік, энтамолаг і фармакагност, першы даследчык флоры Белавежскай пушчы.

Длускі Казімір (1855 — 1930) — нар. у Сасноўцы, што ля Магілёва. Лекар, адзін з піянераў кліматычнага лячэння туберкулёзу.

Заблоцкі Бернард — нар. у 1907 г. у Навагрудку. Мікрабіёлаг і імунолаг.

Петрусевіч Казімір (сын) — нар. у 1906 г. у Мінску. Заолаг, прафесар Варшаўскага універсітэта.

Тызенгаўз Канстанцін (1786 — 1853) — нар. у Жалудку. Заолаг, аўтар каштоўных прац па арніталогіі.

Халхоўскі Фартунат (1854 — 1933) — нар. у Фартуне, што на Віцебшчыне. Лекар ветэрынарыі, дабіўся вялікіх навуковых і практычных дасягненняў. Піянер інсемінацыі.

Чарвякоўскі Рафал (1743 — 1816) — нар. каля Пінска. Хірург, пачынальнік артапедыі ў Польшчы.

П. Байко




*У крынкаўскім плавальным басейне ган'ё шчупакоў завялося і аднаго хлопца з-пад Разбойніка пакалечылі яны так, што ўжо не мае з чым жаніцца.* (ся)

пісьменнік. Маладыя гаспадары, у якіх затрымаўся Грыневіч, паслугоўваюцца мясцовым дыялектам. Дыялект гэты на першы погляд вельмі дзіўны і як бы выдуманы штучна аўтарам. Аднак, не ведаючы сапраўднага характару вымовы ў тым раёне Сібіры, які апісвае аўтар, даволі цяжка выказвацца на гэтую тэму. Мусім у такім выпадку прыняць, што дыялект, якім паслугоўваюцца героі, аўтэнтычны.

Чаму апавяданне называецца „Свята"? Мабыць, не таму, што ўсе падзеі адбываюцца напярэдадні і ў першы дзень Вялікадня, а таму, што чалавек спатыкае роднага сабе чалавека. Можа хтосьці спытаць — а што ж у гэтым незвычайнага і святочнага? Так, аднак, можа спытаць толькі той, хто не ведае, што гэта такое Сібір, хто не ведае, што ў Сібіры чалавек ад чалавека знаходзіцца радзей, чым у сярэдне населенай краіне Еўропы. Таму спатканне тут чалавека, а тым больш свайго сваяка раўназначнае з цудам. Нічога тады дзіўнага, што Гарун назваў свой твор „Святам".

Апавяданне „Свята" — гэта твор аб беларускім лёсе, і таму можам гаварыць аб сваяцтве гэтага твора з „Панам Шабуневічам". Праўда, прадстаўлены ў гэтых апавяданнях розныя героі, розныя тыпы спраў, розныя краіны, але сутнасць твораў адна. Яе імя — беларускі лёс.

# OSMONDOWIE



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвалі: Маніка Дзем'янчук з Беластока, Аня Стэльмашук з Дублян.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Р. С. меў жонку і двое дзяцей. У выніку непаразуменняў жонка з дзецьмі выехала яшчэ ў 1945 г. у Шчэцін, і там яны пражываюць дагэтуль. Калі Р. С. было 62 гады, ён, атрымаўшы развод, ажаніўся другі раз, а праз 4 гады памёр, пакідаючы завяшчанне, у якім ён запісаў нерухомую маёмасць, якая была куплена ў час супольнага жыцця з першай жонкай, сваёй другой жонцы. Ці першая жонка і дзеці могуць патрабаваць спадчыны па Р. С.? Ці могуць яны патрабаваць, каб нерухомая маёмасць была ім прыдзелена? Дзецям яна з'яўляецца бацькаўшчынай і іх правы большыя, чым другой жонкі, з якой спадкадаўца жыў нядоўга.

АДКАЗ: Паколькі Р. С. завяшчаў усю сваю маёмасць другой жонцы, першай жонцы, з якой ён быў разведзены, ніякія правы не прыслугоўваюць. Калі б дзеці яго былі непаўналетнімі або няздольнымі да працы, то ім прыслугоўваў бы „заховэк“, г. зн. 2/3 вартасці той спадчыны, якая ім прыпала б, каб не было завяшчання. Калі ж яны дарослыя і здольныя да працы, то і ім ніякія правы на спадчыну па бацьку не прыслугоўваюць.

Нерухомая маёмасць набыта ў час супольнага жыцця з першай жонкай, і таму з'яўляецца супольнай уласнасцю Р. С. і першай жонкі. Яна можа патрабаваць падзелу гэтай маёмасці. Суд можа пры гэтым прыдзяліць усю нерухомую маёмасць або першай жонцы або другой жонцы. У даным выпадку другая жонка пражывае на нерухомай маёмасці, а першая ў Шчэціне, і таму найбольш праўдападобным з'яўляецца, што суд прызнае маёмасць другой жонцы, а першай — прысудзіць сплаты.

## Куток практычных ведаў




### Як даглядаць хворага грыпам

Усе ведаюць, што ў хворага грыпам няма апетыту. Што рабіць тады? Ці прымяняць дыету, а можа нават галадоўку, так доўга, пакуль будзе трымацца высокая тэмпература? Многія лічаць, што менавіта, калі не есці пры высокай тэмпературы, то гэта будзе спрыяць хуткаму вылячэнню.

Справа, аднак, выглядае зусім інакш. Калі хворы мае высокую тэмпературу, дык павялічваецца ў яго абмен матэрыі. Арганізм спаляе шмат энергіі, і таму ежа з малой колькасцю калорый спрыяе аслабленню арганізму. Таму якраз хворага неабходна вельмі старанна карміць. Але як?

Ежа павінна быць лёгкастраўная, каб не перамучвала занадта страўніка. Пры гэтым павінна яна быць высокакаларыйная. Карацей гаворачы, трэба падаваць таксама і мяса, найлепш варанае з гароднінай, або галкі, да якіх дадаюць масла, малако, яечкі. Так, зразумела, хвораму трэба дагаджаць, паколькі ў час хваробы ў яго найчасцей адпадае ахвота да яды. Толькі пры вельмі высокай тэмпературы наогул не даюць мяса, але тады трэба старацца падаць нейкім чынам адпаведную колькасць калорый і вітамінаў у вадкасцях, адзіных пры высокай тэмпературы стравах, якія хворы можа праглынуць. Павінны гэта быць вадкія супы, напрыклад, працёрты суп з гародніны, булён, памідорны суп, аўсянка са сцертым яблыкам і г.д. Можна падаваць таксама запраўленыя салодкай смятанай або малаком стравы з белага сыра ці з тварагу. Можна з іх зрабіць таксама малочны кісель.

Вельмі важна, каб стравы былі смачныя, прыгожа пададзены (гэта павялічвае апетыт) і каб спажываліся яны заўсёды ў аднолькавую пару.

Трэба таксама памятаць, што пры высокай тэмпературы арганізм чалавека траціць шмат вады. Таму хворы вельмі хоча піць; ды павінен піць шмат, але неабходна паклапаціцца аб тым, каб напітак уводзіў у арганізм не толькі ваду. Такім чынам, найлепш было б даваць хвораму кампоты, салодкі чай з лімонным сокам або жэле з парэчак, з лыжкай канцэнтрату з дзікай ружы (шыпшыны), можна даваць таксама кіслае малако ці кефір. Два апошнія напіткі маюць асаблівае значэнне, паколькі хворы з высокай тэмпературай часта мае запор. Таму раніцай перад ядой можна яму даць некалькі сушаных слівак, памытых і залітых цёплай вадой нанач. Летам з гэтай мэтай можна даць хвораму якія-небудзь ягады з дробнымі семечкамі, напрыклад, парэчкі, трускалкі, суніцы.

Эскулап




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Жыву я на вёсцы. Я адна ў бацькоў, і гаспадарка ў нас добрая. Толік працуе ў горадзе рабочым, закончыў толькі пачатковую школу. Мы мелі намер з ім пажаніцца, аднак калі я яму запрапанавала, каб вярнуўся на вёску, да нас на гаспадарку, ён катэгарычна заявіў, што ні ў якім выпадку — вёска і праца на гаспадарцы яму не падабаюцца. А я вёску люблю і ніколі б не хацела ісці ў горад. Так у нас і не дайшло да вяселля. Аднак мы надалей сябравалі. Паўгода таму назад Толік выехаў на паўгода працаваць заграніцу, а я пазнаёмілася з Валікам з суседняй вёскі. Ён мне спадабаўся, мы ўжо ходзім тры месяцы. Але і Толік піша да мяне пісьмы. Цяпер дык і ахвоты не маю адпісваць яму. Я зразумела, што не кахала яго. Я кахаю Валіка, і ён мяне таксама. Падабаецца маім бацькам, і ахвотна пайшоў бы да нас на гаспадарку, спадабалася яму ў нас. Нядаўна сказаў, што пара б жаніцца, бо ён не малады, яму ўжо 29 гадоў. І я задумалася, ці не занадта стары ён для мяне, мне толькі 19 год. Бацькі кажуць, што гэта не мае значэння. А як ты „Сэрцайка“, мне параіш? Ці выходзіць за яго, ці надалей хадзіць з Толікам, ён малады, яму толькі 21 год?

**Лена з Бельшчыны**

**Лена!** Я згодна з тваімі бацькамі. Гады не маюць значэння, галоўнае, што вы кахаеце адзін другога. Абое любіце працу на гаспадарцы, дык думаю, нішто не перашкаджае, каб і пажаніцца. Што датычыцца Толіка, дык ты ж гаворыш, што не кахаеш яго. І гэтага ўжо дастаткова. А яшчэ ж і адносна працы вы нязгодны. Дык, бадай, няма сэнсу і прадаўжаць вашае знаёмства.

**„Сэрцайка“**

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



Салдацкі могільнік у Беластоку.
Фота Г. Рагазінскага.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Прыснілася мне рыба, але рыба незвычайная, вялікая, дзіўная, такой я ніколі не бачыла. А вось як было гэта ў сне.

Быццам паехала я з дочкамі ў Варшаву. Вяртаючыся з Варшавы, мелі мы заехаць да маіх бацькоў на вёску і вось таму я гавару да дочак: „Зойдзем у рыбны магазін і купім рыбы!“ Зайшлі, але рыбы няма, толькі невялікага аднаго дорша я купіла. Бяру я яго, а прадаўшчыца выймае аднекуль і кладзе на прылаўку іншую рыбу. Вось гэта рыба! — доўгая, шырокая, а галава якая! Вочы — быццам людскія, і ляжыць яна галавой у мой бок, а прадаўшчыца бярэ нож і пачынае рэзаць гэту рыбу на кускі. Ужо ад хваста кавалак адрэзала, і тут я гавару, што гэта ж рыба жывая, а яна яе рэжа. Я раптоўна адвярнулася, каб не глядзець. Праз момант я гляджу: няма ўжо галавы, прадаўшчыца адрэзала і некуды схавала, а мне дала гэтыя кускі. Што абазначае гэты сон?

**Чытачка з Беластока**

Чакаюць вас нейкія клопаты і прыкрасці (дочкі). Што будзе нейкая непрыемнасць у цяжкой, але выгаднай справе (жывая, вялікая рыба), сведчыць тое, што рыбіну парэзалі на кавалкі, ды яшчэ забралі галаву. Падрыхтуйцеся, каб адпаведна пакіраваць сваімі справамі.

**Астрон**




— Гэ, то ж зямляк твой, — азірнуўшыся, гукнуў Шчарбак.

Падышоўшы бліжэй, Цімошкін згледзеў, што гэта сапраўды ягоны зямляк, пісар палкавога штаба, сержант Блішчынскі. Даўно ўжо, мабыць, ад самай дунайскай пераправы яны не бачыліся, хоць і служылі ў адным палку. Праўда, у тым не было вялікага дзіва — розныя былі іхнія справы і іхнія абавязкі, і таму не дужа часта сходзіліся іхнія сцежкі. Адзін, як кажуць, аціраўся пры штабе, а другі з дня ў дзень валокся па палях за пяхотай, толькі і ведаючы, што капаць зямлю ды цягаць гармату.

Блішчынскі яшчэ ваўкавата паўглядаўся ў іх, таксама пазнаў Шчарбака і Цімошкіна і, здаецца, з прыкрасцю за тое, што яны затрымалі яго, сказаў:

— Ну, а я думаў... Давайце хутчэй! А то немцы за кукурузай.

Яны азірнуліся, — сапраўды, трэба было асцерагацца, бо да поля бою, дзе ўжо з'явіліся немцы, было зусім недалёка. Пакуль яны тут углядаліся адзін у аднаго, там за палеткам, дзе засталася іхняя гармата, прагырчала машына і пачуўся нейкі прыглушаны голас. Добра, што затканы снегападам вечар затуляў ужо зімовы прастор.

Шчарбак, не спыняючыся, падаўся наперад, і Цімошкін з Блішчынскім пайшлі поруч. Навокал было ветрана і не па-франтавому ціша, толькі шархацела збоч кукуруза, ды наперадзе, недзе далёка і ледзь чутна раз за разам гахалі выбухі. Пэўна, нямала ўстрывожаны ўсім, што здарылася, Блішчынскі шпарка крочыў, заграбаючы ботамі мяккі снег ды азіраючыся па баках.

— Ну, дачакаліся! Даў немец перцу? Эх, вы, ваякі хвалёныя! Артылерыя мне! Дзе ж вашы яшкі? Мабыць, разбегліся куды каторы? І гарматы пакідалі?

Гэта ён казаў пра іх, артылерыстаў, — казаў з непрытоенай пагардай, са здзекам, тонам раздражнення вайсковага начальніка, які мае права ўшчуваць падначаленых.

— Няма ўжо каму разбягацца. На агнявой пазакопвалі, — зацяўшы прыкрасць, адказаў Цімошкін. — А ты чаго адстаў?

— Дурань быў — з маёрам Андрэевым валэндаўся. А ён памёр. Вось дакументы зняў, — ён паляпаў па сумцы, якая на доўгай почапцы боўталася ля кален.

Яшчэ адна смерць і тое, што Блішчынскі ўсё ж па-салдацку аднёсся да чалавека, іхняга агульнага начальніка, трохі парушылі ў Цімошкіне халодную насцярожанасць да яго, хлопцу падумалася, што і пісару, відаць, дасталася гора за сённяшні дзень. Падавіўшы ўздых, ён даверліва паведаміў і пра сваю бяду:

— А мы гармату пакінулі. Коней пабіла...

— Пакінулі? І не ўзарвалі? — неяк фальшыва здзівіўся Блішчынскі, і, паводзячы туды-сюды худым даўганосым тварам, пакпіў: — А вы забыліся, хлопчыкі, што трыбунал ёсць?

Шчарбак, абыякавы да іхняй размовы, шпарка крочыў наперад, а ў Цімошкіна ад тых слоў Блішчынскага зноў затрымцела ўнутры няпэўная варожасць да яго. Але, здаецца, зямляк яго быў раўнадушны да іх спраў і далей маўчаў, заклапочаны сваёю бядой. Ён сігаў шырока і таропка, і Цімошкін з цягам часу паволі адставаў, бо аслабеў ды і не дужа хацеў ісці побач. Ён ведаў даўно, што людзі яны розныя і наўрад ці магчыма ім зразумець адзін аднаго. Ззаду за яго спіной рупна тупаў нізенькі Здабудзька, прыклад ягонай вінтоўкі на доўгім паску ледзь не кранаўся долу. Стары неўзабаве дагнаў хлопца, і яны пайшлі разам.

Непрыемнае і супярэчлівае пачуццё заварушылася ў растрывожанай і без таго душы Цімошкіна.

Шчарбак і Здабудзька былі ўжо прывычныя яму людзі, хлопец бачыў іх ля сябе ў добрую і благую хвіліну і ведаў, на што кожны з іх здольны. Блішчынскі ж побач з імі быў чалавек выпадковы, характар меў асаблівы, зусім адметны ад іхніх. І праз гэта ці, можа, ад яго недарэчнага напамінку пра трыбунал, ці ад чаго іншага ў Цімошкіне затлела прыкрасць, што з'явіўся ён тут у гэты вось трудны час. Не думалася, а адчувалася неяк, што ў такой вялікай бядзе лепей бы ім апынуцца без яго. Яны, усе трое артылерыстаў, былі радавыя, з'яднаныя ранейшаю службай, адною бядой і адным клопатам як найхутчэй выбрацца да сваіх. Блішчынскі ж быў ім чужы.

Праўда, яны з Цімошкіным былі зем-

## ◆ ПЕРАДАВАЯ „РЭТРА" ◆

Мы сядзелі ў кафэ „Какос", калі пані Салавейчык сказала:

— Цяпер ва ўсім свеце перадавая мода — гэта „рэтра".

— Што значыць „рэтра"? — спытаў Бяспальчык.

— „Рэтра" гэта значыць — „назад". Жанчына, якая хоча быць наперадзе, павінна ісці назад. Люня атрымала апошнія парыжскія журналы мод. Там усё нарысавана.

І ў гэты час у кафэ ўвайшла сама Люня. Люня Гулярдовіч — юрысткансульт. Адзетая яна была так:

Джынсы.

На правай калашыне букет палявых кветак, вышыты штучным шоўкам ў натуральных колерах.

На левай штаніне надпіс: „Аўтамасла Кастроль ГТХ-2".

Пад надпісам лата з палатачнага палатна.

Пазногці левай нагі пакрыты блакітным лакам.

Пазногці правай нагі пакрыты зялёным лакам.

Пазногці на руках — у адваротным парадку.

Абутак — катурны з Тэхаса на вяровачнай падэшве.

Ажурная індыйская блузка апельсінавага колеру.

На шыі скуранае сэрца на салдацкай дзэзе. На сэрцы адцісануты надпіс: „Беласток-Сіці".

Прычоска ў дробных локанах.

Цераз пляча палатняны мяшок на бялізнавай вяроўцы.

На руках авальныя бранзалеты з нястружанага дрэва. Усё...

— Якаясь яна дзіўная, — сказаў паэт Кашон, чые сімпатыі да Люні былі крыху абмежаваны.

— Перадавая „рэтра", — здагадаўся Бяспальчык.

— Вельмі добра адзетая дзяўчына, — ацаніла Люню пані Салавейчык.

— Урэшце што вы ад яе хочаце? У жыцці толькі раз бывае пяцьдзесят пяць год.

Як заўсёды, пані Салавейчык мела рацыю.

**Анатоль Патэмкоўскі**



— Няўжо гэта яны пра нас гавораць?!




### ЯК ІВАН СТАРАСТУ ПРАВУЧЫЎ

У адной вёсцы жыў скупы стараста. Унадзіўся ён ездзіць з Іванам у горад, бо шкадаваў сваіх коней. Івану абрыдла.

Аднойчы, едучы са старастам у горад, Іван кажа:

— Якое ў мяне гора, пане стараста...

— Што такое, Іван?

— Ды на тым тыдні мяне пакусаў шалёны сабака.

Пасля гэтых слоў стараста адсунуўся на край воза. А калі пераязджалі ўброд рэчку, Іван толькі:

— Гаў!

А стараста — бултык у ваду.

Выскачыў на бераг мокры і кажа:

— Вось Іван, знайшоў дзе шалець...

Пасля гэтага больш з Іванам не ездзіў.

# НІЎКА

### АДЫСЕЯ СУЧАСНАГА АДЫСЕЯ



— Ты куды, Адысей, у рабочы час?

— Кажуць, у магазін залатое руно прывезлі.

### ДАЛІКАТНЫ ЧАЛАВЕК

У трамваі сядзіць ладны дзяцюк і пільна ўглядаецца ў акно. Да яго падыходзіць знаёмы і пытаецца:

— Што гэта ты ўглядзеўся ў акно, нават галавы не павернеш?

— Ды сорамна мне за людзей: вось стаіць каля мяне старэнькая бабулька, а ёй ніхто месца не ўступае.

## Актыўны Хвядос

*Хвядоса прасілі:*
*— Ты выступіш мо!*
*А ён, бы на крыллі,*
*Імчаўся дамоў.*

*Казалі Хвядосу:*
*— Смялей крытыкуй.*
*Круціў жа ўсё носам,*
*Сядзеў у кутку.*

*Пасады пазбыўся*
*Хвядос у чацвер.*
*Актыўным зрабіўся,*
*Ды позна цяпер.*

**Р. Яўсееў**

### ЗАПОЗНІЎСЯ З КРЫЎДАЙ

— Скажыце, калі ваш сусед абазваў вас бегемотам?

— Два гады назад.

— Дык чаму ж вы толькі цяпер падалі на яго скаргу ў суд?

— Ды таму, што толькі нядаўна даведаўся, якая гэта непрыгожая жывёліна.

### НЯМЫТЫЯ ВУШЫ

Адзін хлопчык ніколі не мыў вушэй. Нейкі стары не вытрымаў, сказаў яму:

— Няўжо табе не сорамна хадзіць з такімі вушамі?

— А што ж мне рабіць? Іншых жа ў мяне няма, — адказаў гразнуля.



— Дзе ты быў так доўга?



...Ён на шыі ў бацькоў не сядзеў — днямі ляжаў на канапе...

...Хапуга, і соллю гандлюючы, думаў соладка пажыць.

### ВАРТАЎНІК-НАДОМНІК

— Ты чаму на працу не ходзіш?

— А я зараз начным вартаўніком працую.

— Дык цябе ж і ноччу на месцы не відно.

— А я бяру работу дадому.

### ПРЫВЫЧКА

Адвакату даручылі выступіць з лекцыяй перад насельніцтвам. Ён пачаў словамі:

— Грамадзяне суддзі!

### НЕПІТУШЧЫ

Сустрэліся Іван са Сцяпанам.

— Давай вып'ем па кілішку, — кажа Сцяпан.

— Не магу, браце, па трох прычынах, — адказвае Іван. — Па-першае, гарэлка шкодзіць здароўю, па-другое, мне доктар забараніў піць, а па-трэцяе, я п'яны ўжо...



Крытыка.



Самакрытыка.

### У ШАВЕЦКАЙ МАЙСТЭРНІ

— Майстар, чаму гэта вы да маіх туфляў ды жаночыя абцасы прыбілі?

— Эх, малады чалавек! Вы, бачу, ад моды адсталі.

### РАЦЫЯНАЛІЗАТАР

— Пане дырэктар, у мяне ёсць прапанова, дзякуючы якой прадпрыемства штомесячна будзе эканоміць акрэсленую суму.

— Вы што, рашылі адыйсці з работы?



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Валянціны Леанчук з Залешан, Ані Стэльмашук з Дубляк, Ядвігі Лясоты з Шымак, Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## Wszystko kwitnie wkoło

**słowa: M. Bobrowski**
**muzyka: A. Zieliński**
**śpiewają: Skaldowie**

Wiosna — cieplejszy wieje wiatr
wiosna — znów nam ubyło lat
wiosna —
wiosna wkoło
rozkwitły bzy

Śpiewa skowronek nad nami
drzewa strzeliły pąkami
wszystko kwitnie wkoło
i ja i ty

Ktoś na niebie owce wypasa — hej
popatrz zakwitł już twój parasol — hej
nawet w bramie pan Walenty — stróż
puszcza wiosną pierwsze pędy już

Portret dziadka rankiem wyszedł z ram
i na spacer poszedł sobie sam
Nie przeszkadza tytuł, wiek i płeć
by zielono w głowie mieć.

### НАВЫРАСТ

**Пакупнік.** Чаму гэту кільку вы называеце селядцом?

**Прадавец.** Хто ведае, кім бы яна вырасла, калі б яе не вылавілі занадта рана!

### СПОСАБ

— Нарэшце мне ўдалося адвучыць мужа ад гэтай страшнай звычкі грызці пазногці.

— Якім чынам?

— Я хаваю яго зубы.

### У ЛЕКАРА

— Скажыце, што заставуляе вас так напівацца кожны дзень? — спытаў лекар у пацыента.

— Што вы, — хмыкнуў пацыент, — нішто і ніхто мяне не заставуляе. Я добраахвотнік.

### КАБ СПРАЎДЗІЎСЯ СОН

— Бачыў я ў сне, што стаў прафесарам. Што мне рабіць, каб сон спраўдзіўся?

— Меней спаць.

# Курёзы

### З ЖЫЦЦЯ ВЯДОМЫХ ЛЮДЗЕЙ

Папулярны спявак, кароль рок-н-рола Элвіс Прэслі атрымліваў штодзень сотні пісьмаў ад незлічоных прыхільніц. Карэспандэнт чыкагскай газеты прасіў расказаць, аб чым жа пішуць дзяўчаты свайму куміру.

— Амаль усе яны просяць, каб я прыслаў „хоць бы пасму валасоў", і я ніколі ім не адмаўляю.

— Але калі гэта будзе працягвацца, то хутка застанецеся лысым.

— Я не, — сказаў Прэслі, — а вось майму сабаку гэта сур'ёзна пагражае.

* * *

У адрозненне ад многіх кіназорак прыгожая Глорыя Свенсан ніколі не была замужам. Калі яна ўпершыню прыехала з Амерыкі ў Францыю, то атрымала адразу ж шмат прапаноў ад самых выдатных прадстаўнікоў парыжскай знаці.

— Мне думаецца, настаў час выбраць сабе падыходзячага мужа, — сказала яе старая нянька, якая суправаджала актрысу ўсюды.

— Не, не, — адказала ганарыстая Глорыя, — у мяне ёсць сабака, які заўсёды бурчыць, папугай, які здорава лаецца, і кот, які бадзяецца па начах. Навошта мне муж?

* * *

Аднойчы Астроўскі і Пісемскі прыехалі ў Парыж.

— Аляксандр Мікалаевіч, наймай рамізніка, ты ж ведаеш па-іхняму, а я не! — сказаў Пісемскі.

— Ды як жа я буду размаўляць па-французску, калі ў мяне абедзве рукі заняты чамаданамі?




*Выходзячы з сябе, не забывайце вярнуцца назад.*